❑ *Васіль Новікаў пра крытыку ў адрас парламента, пра фракцыі і прэсу.* 1-я — 2-я стар.

❑ *Васіль Агалец пра перабудову ў МУС, сямейную злачыннасць, мітынгі і дэманстрацыі.* 1-я стар.

❑ *АТ «Крыніца» сцвярджае: айчынныя безалкагольныя напоі — на ўзроўні!* 3-я стар.

❑ *Тэлетыдзень.* 4-я стар.



# ЗВЯЗДА

14 чэрвеня 1996 г. пятніца, № 150 (22953)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

### ПРЫГАРАДНЫ ТРАНСПАРТ «УЗБРЫКНУЎ» ЦЭНАМІ

**«Звязда» ўжо паведамляла аб павышэнні цэн на праезд у міжгароднім пасажырскім аўтатранспарце і чакаемым павелічэнні тарыфаў на паслугі прыгараднага.**

Як паведамілі газеце ў Міністэрстве транспарту і камунікацый, з пачатку чэрвеня гэтая мера ўжо атрымала «пуцёўку ў жыццё» ва ўсіх абласцях краіны. Напрыклад, па Мінскай вобласці зараз кошт аднаго кіламетра праезду складае: у машынах агульнага тыпу — 200 рублёў (раней было 170), у мяккіх аўтобусах — 220 рублёў (раней 190). Як бачна, павелічэнне тарыфаў адбылося крыху раней, чым меркавалася. Што ж, транспартнікаў можна зразумець: грошы ім за зробленую работу ніхто на талерачцы не паднясе. Як кажуць, выратаванне тапельца — справа рук самога тапельца. Што ж датычыцца пасажыраў — ім нічога іншага, акрамя як змірыцца, пакуль не застаецца рабіць. Тым больш, што, згодна з прагнозамі, гэта толькі першае звяно ў ланцугу павышэння цэн на паслугі транспарту...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### ПРЭЗІДЭНТ ПРАЦЯГВАЕ ЎДАКЛАДНЯЦЬ СІТУАЦЫЮ НА МЕСЦАХ

**Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 13 чэрвеня А. Р. Лукашэнка прадоўжыў работу па ўдакладненню сітуацыі на месцах. Аб стане спраў у вобласці далажыў старшыня Брэсцкага аблвыканкома У. А. Заламай.**

Прэзідэнт падрабязна цікавіўся, як у вобласці ідзе будаўніцтва жылля для насельніцтва. Ён рашуча запатрабаваў ад абласнога кіраўніцтва, каб прадугледжаныя адпаведным указам жыллёвыя субсідыі трапілі толькі тым, для каго прызначаны, гэта значыць простым людзям. Жыллё павінна быць даступна шырокім слаям насельніцтва, а не толькі багатым, адзначыў Прэзідэнт.

А. Р. Лукашэнка востра паставіў пытанне своечасовасці выплаты пенсій і заработнай платы. Запазычанасць па заработнай плаце работнікам бюджэтнай сферы, і ў прыватнасці настаўнікам, павінна быць ліквідавана на працягу чэрвеня. Ён адзначыў станоўчы вопыт работы ў гэтай сферы Мінгарвыканкома і яго старшыні У. В. Ярмошына.

Прэзідэнт звярнуў увагу У. А. Заламая на неабходнасць больш актыўнай работы па рэалізацыі вырабляемай у вобласці прадукцыі, і перш за ўсё на тэрыторыі Расіі.

14 чэрвеня Прэзідэнт заслухае даклад старшыні Гомельскага аблвыканкома Паўла Шыпука.

**БЕЛТА.**

*МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА*

### «ЗБЛІЖАЦЦА, НЕ СТРАЧВАЮЧЫ СУВЕРЭНІТЭТУ»

**Кіраўнік беларускага парламента Сямён Шарэцкі 12 чэрвеня прыняў старшыню Інтэграцыйнага камітэта Расіі, Беларусі, Казахстана і Кыргызстана Нігматжана Ісінгарына.**

У час гутаркі ён выказаў свае погляды на праблемы інтэграцыі краін былога СССР і ў якасці прыкладу назваў Еўрапейскі саюз, дзяржавы якога, «усё больш цесна збліжаючыся адна з адной, не страчваюць уласнага суверэнітэту».

Паводле слоў беларускага спікера, ужо позна гаварыць аб федэрацыі ці канфедэрацыі народаў СНД, «час для гэтага ўпушчаны, і самае разумнае ва ўзнікшых умовах — гэта весці размову аб саюзе незалежных дзяржаў».

Закранаючы праблемы ўвядзення двайнога грамадзянства ўнутры супольніцтва, Сямён Шарэцкі заявіў, што парламент Беларусі вырашыў адмовіцца ад гэтай ідэі. Узамен беларускія заканадаўцы прапануюць значна спрасціць сістэму атрымання грамадзянства ва ўсіх краінах «чацвёркі».

Абмеркаваны таксама праблемы рэфарміравання эканомікі, канкурэнтаздольнасці прадукцыі, інвесціравання вытворчасцей. Паводле слоў С.Шарэцкага, перад кіраўнікамі краін—удзельніц СНД стаіць шэраг эканамічных праблем, вырашыць якія ў адзіночку не пад сілу нават такім самадастатковым дзяржавам, як Расія. Важнейшая з іх — змяніць сутнасць вытворчасці так, каб не закрануць усё добрае, што існавала ў народнай гаспадарцы СССР, і ў той жа час рэфарміраваць яе, каб прадукцыя магла вытрымліваць канкурэнцыю на сусветным рынку.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

### ВІЗІТ КІТАЙСКАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ ЧАКАЕЦЦА НАСЫЧАНЫМ

**14 чэрвеня з пяцідзённым візітам у Мінск прыбывае дэлегацыя Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў па ўнутраных і судовых справах.**

У ходзе візіту запланаваны сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім, у пастаянных парламенцкіх камісіях па дзяржаўнаму кіраванню і мясцоваму самакіраванню, заканадаўству, міжнародных справах, у Вярхоўным судзе, Міністэрстве юстыцыі.

15 чэрвеня дэлегацыя прыбудзе ў Брэст, дзе пасля правядзення сустрэчы з кіраўніцтвам Брэсцкай вобласці наведае Брэсцкую крэпасць, Белавежскую пушчу, калгас «Советская Белоруссия», саўгас-камбінат «Белавежскі».

Пасля вяртання дэлегацыя прадоўжыць сустрэчы ў беларускай сталіцы. Праграмай знаходжання прадугледжана наведванне мемарыяльнага комплексу «Хатынь» і Кургана Славы, экскурсія па Мінску.

**БЕЛТА.**

*«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»*

### Не плацяць зарплату работнікам бюджэтных сфер...

**Гарачы тэлефон «Звязды» — 68-28-72 — не маўчыць. Звоняць з Мінска, з іншых гарадоў і вёсак краіны.**

Апошнім часам пераважаюць званкі работнікаў бюджэтнай сферы.

З гарадскога пасёлка Фаніпаль Васіль Пятровіч Гарэцкі. Служыць у ваенізаванай пажарнай ахове. У іх падраздзяленні, гаворыць Васіль Пятровіч, трэці месяц не выплачваюць грошай. Пытанне, вядома ж, напрыканцы спадар Гарэцкі задае далёка не арыгінальнае: «Як жыць?» Ды іншага пытання ва ўмовах беспрацоўя, мусіць, і быць не можа.

З 4-й клінічнай бальніцы г. Мінска пазваніла жанчына, медыцынскі работнік. Становішча яе і яе калег не самае горшае. Усяго толькі 5 чэрвеня не выдалі зарплату за май. Іншыя чыноўнікі, ды і людзі-гаротнікі заўважаць: «Усяго толькі за май...» Але ж пры тых 500 тысячах рублёў, што атрымлівае медыцынскі работнік, кожны дзень адтэрміноўкі страшней страшнага. Ды і невядома, ці выдадуць яшчэ і праз тыдзень.

Пазванілі і настаўнікі з Чачэрскага раёна. Не плацяць зарплату і там, што ўжо казаць пра адпускныя.

Сведкай некаторых званкоў аказалася і наведаўшая рэдакцыю настаўніца з Лагойскага раёна Ганна Іванаўна Міхайлава. Пацікавіўся пра выплаты і ў яе школе. Жанчына (дарэчы, перасяленка з чарнобыльскай зоны) як пра нешта будзённае заўважыла: «Не, не плацяць. За май не выплацілі, за красавік... Неяк усё ж перабіваемся. На вёсцы лягчэй...» Думаю, што зусім не лягчэй на вёсцы. Каб жа тыя скварка з кубельца ды агурок з агарода дапамагалі, то нешта ў агарод і ў гаспадарку трэба ўкласці. Дарэмна нічога ж не даецца. Уражвае вось што: людзі да несвоечасовай заработнай платы адносяцца ў большасці сваёй спакойна, моўчкі вытрымліваюць усё. Няўжо гэта становіцца прыкметай часу?

**«Гарачы тэлефон» «Звязды» — 68-28-72. Званіце! Турбуйце і сваё ўласнае, мясцовае чыноўніцтва. Памятайце, што адзін з рычагоў, здольных на нешта, на некага істотна паўплываць, — грамадская думка.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

### ДЭЛЕГАЦЫЯ ЯРАСЛАЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ПРЫБЫЛА Ў МІНСК

**Дэлегацыя Яраслаўскай вобласці Расійскай Федэрацыі на чале з губернатарам А. Лісіцыным прыбыла 13 чэрвеня ў Мінск.**

У праграме двухдзённага знаходжання дэлегацыі ў Беларусі — сустрэчы з прадстаўнікамі аблвыканкома і гарвыканкома сталіцы, наведванне выстаўкі «Белагра-96». Акрамя таго, кіраўнікі расійскай дэлегацыі будуць прыняты прэм'ер-міністрам рэспублікі Міхаілам Чыгірам і яго намеснікам Валерыем Кокаравым. У ходзе візіту плануецца падпісанне шэрага дакументаў, што датычаць эканамічнага супрацоўніцтва Яраслаўскай вобласці і Беларусі.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

*У КАМІСІЯХ ВС*

## ВЫКАНАННЕ БЮДЖЭТУ: «АБ'ЁМАЎ» НАМНОГА БОЛЬШ, ЧЫМ ГРОШАЙ...

Выкананне рэспубліканскага бюджэту за 4 месяцы разгледзела Камісія ВС па бюджэту, падатках, банках і фінансах. У прынятым ёй рашэнні сказана наступнае: выкананне бюджэту не забяспечана. Гаворыцца таксама аб дапушчаных сур'ёзных хібах і недапрацоўках у арганізацыі яго выканання, фінансавым аздараўленні сферы матэрыяльнай вытворчасці, аб парушэннях дзеючага заканадаўства адносна льгатавання і вызвалення ад уплаты падаткаў суб'ектаў гаспадарання... Выкананне бюджэту ў цэлым за год, пры існуючай эканамічнай сітуацыі, выклікае ў камісіі пэўныя сумненні, у сувязі з чым яна даводзіць аб неабходнасці яго карэкціроўкі. Камісія таксама вырашыла прапанаваць Прэзідыуму ВС унесці на разгляд бягучай сесіі пытанне адносна інфармацыі Прэзідэнта аб эканамічным і палітычным становішчы ў краіне.

Што паслужыла падставай для прыняцця такога не зусім прыемнага для выканаўчай улады рашэння?

Найперш камісія адзначае дрэннае выкананне даходаў па бюджэту. У прыватнасці, па кансалідаванаму бюджэту яны выкананы за 4 месяцы на 21 працэнт адносна года і на 62,9 працэнта — адносна плана студзеня—красавіка. Зніжаецца доля даходаў бюджэту ў валавым унутраным прадукце, пры гэтым адноснае зніжэнне даходаў значна апярэджвае зніжэнне аб'ёмаў ВУП, скарачаецца ўдзельная вага падатку на прыбытак. Галоўнай прычынай такога становішча камісія называе пагаршэнне ў сферы матэрыяльнай вытворчасці, яна канстатуе ўжо вядомае: узраслі аб'ёмы нерэалізаванай прадукцыі (на складах на 1 красавіка ляжала прадукцыі на 10 трыльёнаў 121 мільярд рублёў, павелічэнне гэтых запасаў за квартал склала 31,3 працэнта). Карацей, адноснае забеспячэнне аб'ёмаў не прывяло да належнага народнагаспадарчага эфекту, да адэкватнага паступлення даходаў. Хутчэй усё атрымалася наадварот... У прыватнасці, Камісія робіць выснову: пры адноснай стабільнасці аб'ёмаў вытворчасці ў прамысловасці рэзка зніжаецца падаткаабкладаемая база.

Па сутнасці, няма даходаў ад прыватызацыі (іх паступіла крыху больш як паўмільярда рублёў пры намечаных на год 998 мільярдах (між іншым, адкуль быць гэтым даходам, калі аб ходзе самой прыватызацыі можна гаварыць больш умоўна), зніжаецца збіраемасць падаткаў.

Такая карціна з даходамі бюджэту, а як з расходамі? Іх сярэдняе выкананне (адносна года) склала 21,1 працэнта. Гэта амаль адпавядае даходам, але далёка не такая прымальная карціна пры аналізе фінансавання розных відаў расходаў асобна. Так, камісія зафіксавала: расходы на ўтрыманне Службы бяспекі Прэзідэнта прафінансаваны, да гадавога плана, на 31,3 працэнта, Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы — на 30,6, органаў дзяржбяспекі — на 28, Міністэрства абароны — на 27,8, унутраных войскаў — на 26,6 працэнта. У той жа час фінансаванне асобных праграм і напрамкаў дзейнасці склала па 4,7; 5,8; 6,8; 8,7 працэнта... Паводле даных старшыні камісіі, на 21,9 працэнта прафінансавана культура, на 20 — ахова здароўя, на 22 працэнты — сацыяльнае забеспячэнне... Вядома, усе галіны, напрамкі і праграмы патрабуюць поўнага фінансавання — згодна з тымі лічбамі (і магчымасцямі), якія закладзены ў бюджэт. Але ж калі сродкаў не хапае, то, відаць, і ўціскацца трэба таксама ўсім, хіба што толькі ў асобных выпадках можна нечаму аддаць перавагу — сапраўды прыярытэтнаму.

Вынікі выканання бюджэту за 4 месяцы, такім чынам, у першую чаргу сведчаць: пры адноснай стабілізацыі аб'ёмаў нам яшчэ, відаць, вельмі далёка да сапраўднай агульнай стабілізацыі, а найперш — фінансавай. Аб'ёмы, якія пакладзены на склад, самі па сабе нічога не даюць. Калі яны і сведчаць пра што, дык толькі пра тое, што на іх затрачаны сродкі, праца, прычым вельмі значныя. Аб'ёмы — гэта яшчэ не тавар, не капітал, і не тая валюта, патрэбнасць у якой рэзка абвастрылася ў апошні час, аб'ёмы, пакладзеныя на склад, не могуць прывесці і не прывядуць да павышэння нашага дабрабыту. Арыентацыя на аб'ёмы — гэта арыентацыя на ўчарашні дзень, гэта адначасова дэзарыентацыя працоўных калектываў адносна мэтаў іх дзейнасці. Калі нам і патрэбны аб'ёмы — дык гэта аб'ёмы продажу, менавіта на іх і арыентуюцца ва ўсім свеце.

На выніке выканання бюджэту ўплывае эканамічная сітуацыя ў цэлым. На суб'ектах гаспадарання, якія і напаўняюць бюджэт, па-ранейшаму вісяць немалыя даўгі — па зарплаце, па таму ж бюджэту, адначасова ідзе раздача ім розных ільгот

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю*

**Васіль НОВІКАЎ:**

## «БУРА Ў ШКЛЯНЦЫ ВАДЫ НЕ ЗАКРАНАЕ ГЛЫБІНЬ НАРОДНАГА ЖЫЦЦЯ»

**На пытанні «Звязды», якія датычаць ацэнкі дзейнасці дэпутацкага корпуса трынаццатага склікання і апошніх нашумелых падзей у Авальнай зале, адказвае першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**



**— Апошнім часам узнікаюць спрэчкі адносна існавання і дзейнасці фракцый Вярхоўнага Савета. Гэта вельмі моцна адчувалася падчас абмеркавання паправак у Закон «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь». Які ваш погляд на гэтую праблему, у чым, на вашу думку, павінны заключацца роля і паўнамоцтвы фракцый?**

— Спрэчкі аб фракцыйнасці выклікаюць у мяне самае глыбокае здзіўленне. Ці не іх завадатаі пастаянна абвяшчаюць аб тым, што сабраліся ў цывілізаваны, дэмакратычны, прававы свет? У той свет, дзе існаванне фракцый у парламенце ёсць агульнапрызнаная цывілізатарская, прававая і якая заўгодна іншая норма. Дзе перамогшая на выбарах партыя фарміруе сваю структуру не толькі ў прадстаўнічым органе, а стварае кааліцыйны ўрад, вызначае палітыку, і ўсё гэта — азбука парламентарызму, тая самая, за якую на словах змагаюцца ўдзень і ўначы нашы сацыял-, ліберал- і іншыя дэмакраты. Яны дапускаюць такія кульбіты, што глядзець моташна. За імі і шматлікія падпарадкаваныя ім СМІ кідаюцца ў спрэчкі стогадовай даўнасці, дэманструючы дзікую дрымучасць.

А ўся справа ў тым, што ініцыятары гэтых дыскусій у Вярхоўным Савеце маюць дзве маленькія групы, «Грамадзянскае дзеянне» і «Саюз працы», а апаніруюць ім больш ці менш згуртаваныя буйныя фарміраванні — аграрыі, камуністы, «Згода». Вось і ўся падаплёка страху перад фракцыйнасцю.

Роля фракцый у Вярхоўным Савеце Беларусі такая ж, як і ў парламентах іншых краін. Яны выпрацоўваюць адносіны да той ці іншай ідэі, стратэгіі, блока законаў, ініцыятывы прэзідэнта або палітычнай падзеі. І гэта ні ў якой ступені не прыніжае ўплыву пастаянных камісій. Іх роля, месца і значэнне абаронены Законам аб Вярхоўным Савеце і яго Часовым рэгламентам. Агульнавядома і іншая роля фракцый: узгадненне пазіцыі шляхам міжфракцыйных кансультацый на аснове ўступак, дагаворанасцей, кампрамісаў. Механізмам дасягнення кансенсуса служыць і Прэзідыум, паколькі ў ім прадстаўлены лідэры буйнейшых фракцый.

Работа дэпутата ў фракцыі гэткая ж законная, як яго дзейнасць на пленарным пасяджэнні, у камісіі або ў выбарчай акрузе. Яна, натуральна, павінна аплачвацца, і ў гэтым сэнсе фракцыю, безумоўна, трэба прызнаць структурай парламента, такой жа легітымнай, як усе іншыя. Кожная фракцыя расійскай Дзярждумы, напрыклад, мае свой апарат. Нашы фракцыі фактычна выступаюць з заканадаўчымі ініцыятывамі, але пакуль яны рэалізуюцца абходнымі шляхамі. Дык чаму юрыдычна не прызнаць існуючае становішча рэчаў?

Фракцыі робяць палітыку, камісіі рыхтуюць законапраекты, сесія вырашае — у такім размеркаванні функцый не ўтрымліваецца ні грана ерасі з пункту гледжання заходняй дэмакратыі. Гэта ж дакладна як у Еўропе або Амерыцы. Але сёння беларускім дэмакратам нявыгадна браць прыклад з еўрапейцаў. Вось чаму ў публікі навідавоку прагрэсіўна настроеныя прафесіяналы, юрысты і знаўцы рэгламенту вымушаны ламацца ў адчыненыя дзверы.

**— Мы ўжо ведаем, што па міжфракцыйнай дамоўленасці былі падзелены партфелі кіраўніцтва пастаянных камісій, членаў Прэзідыума. Ці лічыце вы такі падыход найбольш эфектыўным і дзейсным?**

— Я, уласна, у асноўным ужо адказаў. Па-мойму, такі падыход на практыцы сябе апраўдаў. Па-першае, дзякуючы яму за два тыдні выбраны спікер, сфарміраваны Прэзідыум і камісіі. Вярхоўны Савет дванаццатага склікання затраціў на гэтыя працэдуры паўтара месяца. Па-другое, структураванасць новага дэпутацкага корпуса як станоўчую яго рысу адразу ж адзначыла прэса. Па-трэцяе, гэта зусім натуральна, што заканадаўчую ўладу падзялілі сілы, якія ўвайшлі ў парламент — згодна з дасягнутымі на выбарах вынікамі. Так, выбаршчыкі дэлегавалі ў Авальную залу прадстаўнікоў розных плыняў, ідэалогій, поглядаў, і дэпутаты аб'ектыўна асуджаны на супрацоўніцтва на нейкай агульнай аснове.

Нарэшце, які іншы падыход быў бы больш эфектыўным і дзейсным? Членаў Прэзідыума выбраць з «Грамадзянскага дзеяння», а старшынь пастаянных камісій з камуністаў? Або ўсе «партфелі» ўручыць «Згодзе»? Прапануйце, калі ласка, ідэальны спосаб (выключаючы міжфракцыйныя дагаворанасці), які і вырашае любую праблему да ўсеагульнага задавальнення, і на парадак паскарае праходжанне законапраектаў. Прапануйце — будзем вельмі ўдзячныя.

**— Як бы вы маглі пракаменціраваць крытыку ў адрас парламента, якая чуецца ўсё часцей і часцей?**

— З майго пункту гледжання, крытыкі зусім няма, калі пад ёю разумець усебаковы глыбока аргументаваны аналіз з выхадам на пазітыўныя прапановы. Усё часцей і часцей гучаць галаслоўныя абвінавачанні і чысцейшай вады папулізм. У гэтым гвалце патануў і «канец» парламента папярэдняга склікання, і «ўзыход» зноў выбранага. Многія «канчатковыя» высновы аб новым дэпутацкім корпусе грунтуюцца на пяску яшчэ і таму, што аб'ектам даследавання могуць служыць толькі пяць месяцаў работы, гэта значыць перыяд станаўлення, вучобы.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### Аб унясенні змянення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. У частцы першай пункта «д» артыкула 26 Закона Рэспублікі Беларусь ад 19 красавіка 1996 года «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 13—14, арт. 165) словы «міністэрстваў і іншых цэнтральных органаў кіравання» замяніць словамі «міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання і дзяржаўных аб'яднанняў, створаных па рашэнню ўрада Рэспублікі Беларусь».

2. Гэты Закон увесці ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*24 мая 1996 г., г. Мінск.*
*№ 372-XIII.*

## АП «КРЫНІЦА»: ІДЭІ І ЛЮДЗІ

**Пасябраваць з прадукцыяй Мінскага арэнднага прадпрыемства «Крыніца» — «Цэвітай», напіткамі, жэле, кісялём, півам — вас запрашае дазіроўшчыца Лілія СТЭЛЬМАХ.**

*(Чытайце 3-ю старонку «Звязды»).*

### У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Як паведаміла парламенцкая прэс-служба карэспандэнту БЕЛТА, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Вялікабрытаніі пані Джэсіку Пірс па яе просьбе.

На сустрэчы абмяркоўваліся пытанні развіцця міжпарламенцкіх сувязей паміж дзвюма дзяржавамі. Дасягнута дагаворанасць аб візіце ў Беларусь дэлегацыі брытанскіх парламентарыяў восенню гэтага года.

* * *

Рабочая сустрэча кіраўнікоў Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага і Сейма Рэспублікі Польшча Юзэфа Зыха адбудзецца 20 чэрвеня. У ходзе сустрэчы прадугледжваецца абмеркаванне пытанняў міждзяржаўных адносінаў і двухбаковых сувязей вышэйшых заканадаўчых органаў Беларусі і Польшчы.

**БЕЛТА.**

*Віншуем нашых калег з газеты «Рэспубліка» з першым пяцігадовым юбілеем!*

**Звяздоўцы.**

**Валянцін АГАЛЕЦ:**

## «ПРАВА ДЛЯ ЎСІХ ПАВІННА БЫЦЬ АДНОЛЬКАВЫМ»

Да канца сёлетняга года злачыннасць павінна быць зведзена да ўзроўню 1994 года...

Аператыўна-следчая служба, якая раней уразалася, сёння становіцца прыярытэтнай і ўжо ўкамплектавана на 100 працэнтаў, нягледзячы на некамплект у органах МУС 2,5 тысячы супрацоўнікаў.

З 1961 года да крымінальнай адказнасці ў Беларусі было прыцягнута каля паўтара мільёна чалавек, штогод да адміністрацыйнай адказнасці прыцягваюцца сотні тысяч...

Гэтыя факты прывёў учора на брыфінгу міністр унутраных спраў Валянцін Агалец. Што запомнілася яшчэ:

**Пра сямейную злачыннасць.** Сям'я сёння стала асноўным палігонам злачынстваў (трэць ад усіх). Больш чым 30 тысяч скандальных сем'яў стаіць на ўліку ва ўчастковых. Участковыя, дарэчы, становяцца сапраўды першым эшалонам міліцыі. Калі раней участковыя мяняліся праз 2-3 месяцы, то сёння трэба, каб яны для павышэння па службе працавалі 2-3 гады.

**Пра структурную перабудову МУС**. Структура ўстарэла. Занадта шмат усялякіх падраздзяленняў і іх начальнікаў. Перавага сёння аддаецца міліцыі грамадскай бяспекі. Ходзіць шмат чутак пра вельмі высокую зарплату міліцыянераў. Так, сяржант міліцыі атрымлівае 1,2—1,5 мільёна рублёў, але ж ён і рызыкуе жыццём кожны дзень. Разам з тым, міністр лічыць ненармальным, што ў 38—40 гадоў афіцэр міліцыі ў нас можа атрымліваць пенсію, калі нават у багатай Германіі для гэтага трэба даслужыць да 60 гадоў. Міністр не хаваў занепакоенасці карупцыяй і здрадніцтвам у міліцыі, расказаў пра выпадак, калі яшчэ да афіцыйнага загада аб увядзенні новых знакаў ДАІ была затрымана разбойная група, якая ўжо мела 30 такіх знакаў. А колькі камплектаў міліцэйскай формы маюць злачынныя групоўкі! Дарэчы, на думку Агальца міліцэйская форма павінна стаць інвентарнай («адслужыў — вярні»). Міліцыя сёння не просіць дабавіць штаты. «Гэта недазвольная раскоша, калі маёр у ДАІ звярае нумары рухавікоў!», але ўразанне Вярхоўным Саветам бюджэту МУС на 50 працэнтаў міністр назваў ударам па бяспецы ўсіх грамадзян.

**Пра дзеянні міліцыі ў час мітынгаў і дэманстрацый.** «Чаму многія разглядаюць права з таго боку, з якога ім больш выгадна? Мы забяспечваем парадак незалежна ад палітычных поглядаў. Я не асмеліўся б ставіць пытанне аб беззаконнасці дзеянняў міліцыі. Прашу прабачэння за нетактоўнасць міліцыі ў дачыненні да некаторых журналістаў, але ж мы адказваем за бяспеку і журналістаў».

**Да ведама грамадзян.** Паводле даных МУС, найбольш крымінагеннымі днямі з'яўляюцца (па маю гэтага года) пятніца (больш за ўсё рабаванняў, крадзяжоў маёмасці, вымаганняў, дарожна-транспартных здарэнняў, пажараў), чацвер (больш забойстваў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў), серада (больш згвалтаванняў, разбойных нападаў, хуліганства).

**Да ведама прафесіяналаў і аматараў «баранкі»**. Агалец ездзіць на службовым «Мерседэсе-500»(«не хапала яшчэ, каб міністра ўнутраных спраў на трасе абганялі»), нумары мяняе і сам(!) затрымлівае на дарогах парушальнікаў (у зводках ДАІ гэта не рэдкасць). Асабістага транспарту міністр не мае.

## УВАГА!

*Як мы ўжо паведамлялі, рэдакцыя газеты «Звязда» па ўзгадненню з дзяржаўным прадпрыемствам «Белпошта» праводзяць конкурс сярод паштальёнаў раённых вузлоў сувязі па дасягненню найвышэйшых колькасных паказчыкаў пры падпісцы на нашу газету.*

*Устаноўлены тры першыя прэміі ў памеры 3.000.000, 2.500.000 і 2.000.000 рублёў і дзесяць заахвочвальных, па 300.000 рублёў кожная, якія будуць пералічаны на рахункі раённых вузлоў сувязі пасля падвядзення вынікаў падпіскі.*

*Заставайцеся са «Звяздой».*

**Рэдакцыя.**




***Начальнік цэха сухіх напіткаў Мінскага арэнднага прадпрыемства «Крыніца» Ганна БАДРОВА:***

# «ЯКАСЦЬ ПРАДУКЦЫІ, ВЫСОКАЯ КУЛЬТУРА ВЫТВОРЧАСЦІ, ДЗЕЛАВЫЯ СЯБРОЎСКІЯ АДНОСІНЫ Ў КАЛЕКТЫВЕ І ВЯЛІКАЯ АДКАЗНАСЦЬ ПЕРАД КОЖНЫМ СПАЖЫЎЦОМ — АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ ДЗЕЙНАСЦІ НАШАГА ПРАДПРЫЕМСТВА»



Ганна БАДРОВА.

**—К**АЛЕКТЫЎ — і ў цэху, і на прадпрыемстве ў цэлым — у нас добры. Ён фарміраваўся на працягу многіх гадоў. У нас ёсць цэлыя дынастыі, заснавальнікі якіх працавалі на «Крыніцы» з першага дня работы. А было гэта звыш дваццаці гадоў таму...

Здольная, сумленная, шчырая і працавітая моладзь таксама папоўніла апошнім часам нашы рады. Так што з кадрамі, дзякуй Богу, праблем у нас няма ніякіх.

Яшчэ ў мінулым годзе ў прадпрыемства шмат было праблем з рэалізацыяй прадукцыі. Сёння, на шчасце, іх практычна няма. «Цэвіта», жэле, кісель, напіткі і піва — усё ідзе па сутнасці прама ў гандаль. Аб'ёмы вытворчасці ў параўнанні з папярэднімі гадамі выраслі на 50 працэнтаў. Ёсць магчымасці і для павелічэння выпуску прадукцыі.

Цэх сухіх напіткаў — адзін з асноўных у арэндным прадпрыемстве «Крыніца». Мэта нашай вытворчай дзейнасці — павелічэнне аб'ёмаў харчовых прадуктаў на аснове прынцыпаў рацыянальнага і збалансаванага харчавання насельніцтва. Галоўная ж ідэя стварэння такой вытворчасці заключалася ў павелічэнні прафілактычнага выкарыстання полівітамінных прэпаратаў жыхарамі Рэспублікі Беларусь пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, як галоўнага сродку барацьбы з апрамяненнем.

Наладжваючы вытворчасць, выкарыстоўваліся і ўлічваліся многія фактары. Гэта і сучасная тэхналогія вытворчасці сухіх напіткаў пры ашчаджальных тэмпературных рэжымах, якая дазваляе поўнасцю захаваць і данесці да спажыўца вітаміны і іншыя неабходныя дабаўкі, што, акрамя спажывецкіх уласцівасцей, забяспечвае высокія смакавыя якасці... Гэта і натуральныя чырвоныя сокі, і экстракты розных ягад, натуральны пекцін, мінеральныя дабаўкі... Гэта, нарэшце, адсутнасць усялякага роду кансервантаў, штучных фарбавальнікаў, танных «адэкалонавых» араматызатараў сумніўнага паходжання, цукразамяняльнікаў, якія адмоўна ўздзейнічаюць на функцыю некаторых органаў чалавека, зніжаюць разумовыя здольнасці ў падлеткаў, забаронены для ўжывання цяжарным жанчынам...

Дарэчы, асваенне выпуску сухога вітамінізаванага напітку «Цэвіта» на аб'яднанні «Крыніца» пачалося неўзабаве пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС у рамках ажыццяўлення праграмы вітамінізацыі насельніцтва, прынятай і зацверджанай тагачасным кіраўніцтвам Саюза ССР. Такім чынам, і гэта акалічнасць сведчыць аб тым, што наша прадукцыя заклікана спрыяць аздараўленню насельніцтва ў постчарнобыльскіх умовах жыцця.

У мінулым годзе наш цудоўны і карысны напітак па рэкамендацыі медыкаў быў абагачаны кальцыева-фосфарнай дабаўкай, якая вельмі прыкметна паляпшае рэгуляванне працэсаў абмену рэчываў у арганізме. Кантакты з медыцынай у нас адладжаныя, і неўзабаве яе прадстаўнікі маюць намер прапанаваць нам свае новыя распрацоўкі. Так што «Цэвіта» стане яшчэ больш карыснай.

Выкарыстоўваючы замежную тэхналогію, айчынную натуральную сыравіну, узбагачаючы прадукцыю унікальнымі мікрадабаўкамі, такімі, як кальцыева-фосфарная, караціноіды, пекціны, мы і надалей будзем рабіць усё, каб нашы напіткі вызначаліся высокай якасцю, спажывецкімі ўласцівасцямі, спрыялі аздараўленню арганізма чалавека, выдаленню з яго радыенуклідаў, таксінаў, солей цяжкіх металаў... Наша прадукцыя такім чынам — адзін з асноўных сродкаў прафілактыкі рака. Асноўныя прынцыпы жыцця і дзейнасці ўсяго калектыву арэнднага прадпрыемства «Крыніца»: выдатная якасць прадукцыі, высокая культура вытворчасці, дзелавыя сяброўскія адносіны паміж працаўнікамі і вялікая адказнасць усіх і кожнага перад спажыўцамі.

***Галоўны півавар АП «Крыніца» Сяргей ПРАСТАК:***

## «ПА ЎСІМ СВЕЦЕ ПАЙШЛА ПРА НАС ДОБРАЯ СЛАВА...»



Сяргей ПРАСТАК.

**—У** МІЖНАРОДНАЙ выстаўцы-кірмашы ў Сочы мы ўпершыню прынялі ўдзел тры гады назад. Аднак маштабы яе за гэты час вельмі і вельмі павялічыліся. А яшчэ яна непазнавальна змянілася ў прафесіянальных адносінах. Прычым, у Сочы ўсё больш актыўна імкнуцца не толькі непасрэдна вытворцы піва, а і замежныя пастаўшчыкі сыравіны, абсталявання, цэлых міні-заводаў.

На гэты раз у выстаўцы-кірмашы прымалі ўдзел прадстаўнікі такіх вядомых фірмаў, як «Грэйс Дэвісан» (Германія), «Морыс Ханбуры» (Вялікабрытанія), «Донбру» (Данія), «Флэйворынг АБ» і «Прэмакс» (Швецыя), «Лахтэн полціма» (Фінляндыя), «Ковінатэхна» (Славенія), а таксама вытворцы безалкагольных напіткаў з Расіі, Швейцарыі, Чэхіі, Іспаніі, Украіны, Аўстрыі, Казахстана, прыбалтыйскіх дзяржаў.

Як бачыце, прадстаўніцтва вялікае і аўтарытэтнае, так што сярэбраны і бронзавы медалі, якіх удастоена наша прадукцыя, — узнагароды важкія і ганаровыя.

Дарэчы, ацэньвала якасці прадукцыі вельмі высокакваліфікаваная камісія спецыялістаў, іх вывады былі надзвычай аб'ектыўнымі і якога-небудзь махлярства ці падтасовак у Сочы і быць не магло.

Акрамя дэманстрацыі сваёй прадукцыі, мы мелі вялікую магчымасць выбраць для далейшай вытворчай дзейнасці ўзоры новага сучаснага абсталявання, сыравіну. Карацей кажучы, працаваць было з кім.

Наша прадукцыя — як па смакавых і спажывецкіх якасцях, так і па афармленню — наблізілася да еўрапейскага ўзроўню. Сёння ў многіх краінах, і асабліва ў Расіі, Прыбалтыцы, на Украіне, шмат створана і ствараецца сумесных прадпрыемстваў з нямецкімі, чэшскімі, бельгійскімі фірмамі-вытворцамі, тымі, якія даўно і трывала заваявалі на міжнароднай арэне добрую славу і прызнанне. Разам яны распрацоўваюць тэхналогіі, паляпшаюць сыравіну, вядуць пошукі афармлення прадукцыі... І за такімі сумеснымі прадпрыемствамі, несумненна, будучыня ўсёй нашай галіны.

Я, як галоўны півавар, сабраў у Сочы вялікую інфармацыю па сучасных тэхналогіях, кампанентах піва. У далейшай рабоце без іх мы, вядома ж, проста не абыдземся. Думаю, наша арэнднае прадпрыемства знойдзе магчымасці для атрымання паставак з-за мяжы.

**— Адкуль канкрэтна?**

— З Фінляндыі, Расіі, Чэхіі, Германіі. Ужо ў бліжэйшай будучыні канкурэнцыя, несумненна, абвастрыцца, якасць безалкагольных напіткаў палепшыцца, так што трэба працаваць і яшчэ раз працаваць.

Сучаснае піваварэнне нельга параўноўваць з традыцыйным, тым, якое было, скажам, сто гадоў таму, калі горшай была аснашчанасць вытворчасці, адсутнічала кантрольная апаратура і г. д. Тады, як правіла, кіраваліся чуццём. Цяпер жа, калі ў вытворчым працэсе задзейнічана каля тысячы ці крыху менш чалавек, гэтага — мала. На Захадзе цяпер усё робіцца ў аўтаматычным рэжыме: адладжаным і стройным. Там падабрана дакладнейшае абсталяванне, адпаведнай якасці сыравіна... Да гэтага трэба імкнуцца і нам.

**— І далёка вам да такога ўзроўню?**

— Думаю, мы дзесьці на паўдарозе да яго.

Тэхнічнае забеспячэнне і якасць сыравіны ў працэсе выпуску нашай прадукцыі заўсёды крочылі і крочаць побач. Магу сказаць пра гэта больш падрабязней.

**— Калі ласка.**

— Вы, відаць, чулі пра такую культуру, як піваварны ячмень. Але ў нас яна так толькі называецца. Ні па якасці, ні па іншых параметрах з заходнімі наш ячмень канкурыраваць не можа. Далей — хмель. Раней мы атрымлівалі яго з саюзных рэспублік былога СССР, цяпер жа закупляем у Югаславіі і Германіі. Справа іншы раз упіраецца ў валюту і не заўсёды, на жаль, атрымліваецца ўзяць тое, што нам хацелася б...

Ну, а адносна тэхнічнага забеспячэння скажу карацей: нам усім разам трэба імкнуцца да пераарыенціроўкі вытворчасці на завод-аўтамат. Рэканструкцыя вядзецца, шмат сіл і намаганняў у гэтым накірунку прыкладае генеральны дырэктар арэнднага прадпрыемства «Крыніца» Уладзімір Захаравіч Бадроў, аднак капітальных укладанняў трэба вельмі і вельмі многа.

**— Сяргей Пятровіч, ёсць, несумненна, і іншыя праблемы і нявырашаныя пытанні?**

— Ёсць. Скажам, вось адна з праблем. Сёння вытворцы безалкагольных напіткаў у рэспубліцы прадстаўлены самі сабе. Сувязей з навукай — ніякіх. Але ж яны павінны быць — хоць бы ў маштабах галіны. Многія праблемы і пытанні на заводах і камбінатах ідэнтычныя, а вырашаць іх кожнаму калектыву даводзіцца паасобку. Ну, хіба гэта дзяржаўны падыход?!




**Медалі — высокія ўзнагароды, атрыманыя калектывам прадпрыемства на буйных міжнародных конкурсах за высокую якасць прадукцыі.**

***Начальнік аддзела маркетынгу Уладзімір БАРЫСЕВІЧ:***

## «ГАЛОЎНАЕ — СТВАРЫЦЬ КАНКУРЭНЦЫЮ ДЛЯ ЗАСІЛЛЯ ІМПАРТНЫХ НАПІТКАЎ»

**—З**УСІМ нядаўна — у маі месяцы — наша арэнднае прадпрыемства пашырыла свае межы. Мы пачалі выпускаць напіткі на новым заводзе ў горадзе Нясвіжы.

Будаўніцтва яго па ўсім нам вядомых прычынах вялося доўга — каля пяці гадоў. Наладжваць і запускаць новую вытворчасць на перыферыі нас прымусіла жыццё. Праблема заключалася ў тым, што паўднёвы рэгіён рэспублікі ў гарачы час — вясенне-летні перыяд — адчуваў востры недахоп газіраваных напіткаў.

Аднак, запярэчаць мне многія, напіткаў сёння ж хапае, і найперш — імпартных: паглядзіце, колькі іх у «камках»! Згодзен: іх больш чым дастаткова, імі і сапраўды перапоўнены нашы гандлёвыя кропкі. Але ж... Давайце паглядзім на цэннікі. У паўтара-два, а то і больш разоў даражэйшыя яны за нашы. Каму, скажыце, яны сёння па кішэні?! Асабліва там, у сельскай мясцовасці...

Для таго, каб не ўпусціць рынак збыту, каб задаволіць патрэбы спажыўцоў у паўднёвым рэгіёне Рэспублікі Беларусь, — мы і вырашылі наладзіць выпуск напіткаў у старадаўнім беларускім горадзе Нясвіжы.

Скажу больш. Насельніцтва рэспублікі даўно прывыкла да нашай прадукцыі. Прывыкла да напіткаў на натуральнай сыравіне. А імпартная прадукцыя, акрамя таго, што намнога даражэйшая, не заўсёды, як сведчаць даныя праверак і аналізаў, яшчэ і якасная...

Выгада ад наладжвання вытворчасці напіткаў у Нясвіжы яшчэ і ў тым, што гандлюючыя арганізацыі шмат сэканомяць на транспартных расходах. Напрыклад, у Баранавічах, Ляхавічах, Клецку, Капылі змогуць атрымаць нашу прадукцыю з Нясвіжа з меншымі выдаткамі, чым з Мінска. Значыць, і ў гандлі напіткі будуць прадавацца танней. Рэзонна?!

**— Вядома ж!**

— Дарэчы, мы разлічваем, што наша прадукцыя з Нясвіжа можа і павінна пайсці і ў раёны Гродзеншчыны, а не толькі Міншчыны і Брэстчыны. Карысць і выгада тыя ж: меншыя транспартныя расходы.

Адным словам, чакаем спажыўцоў з самых розных рэгіёнаў рэспублікі!

**— Якія аб'ёмы вытворчасці напіткаў на заводзе ў Нясвіжы?**

— Для пачатку штодзённа выпускаем ад двух да трох тысяч дал напітку. Можам рабіць і больш. Але пакуль што не сфарміраваўся рынак збыту прадукцыі.

***Пагэтаму праз газету «Звязда» мы звяртаемся да кіраўнікоў сістэмы Белкаапсаюза, спажывецкіх і гандлюючых арганізацый, прадстаўнікоў камерцыйных фірмаў з прапановай набываць там, у Нясвіжы, вырабы арэнднага прадпрыемства «Крыніца». І не толькі напіткі, якія вырабляюцца непасрэдна ў гэтым горадзе. Мы будзем пастаўляць у Нясвіж і іншую прадукцыю «Крыніцы», у тым ліку — «Цэвіту», жэле, хуткарастваральны кісель, які, дарэчы, у краінах Садружнасці Незалежных Дзяржаў выпускаем толькі мы. І піва — таксама.***

На складах завода ў Нясвіжы будуць фарміравацца заказы-заяўкі і літаральна ў самыя бліжэйшыя дні нашы патэнцыяльныя пакупнікі змогуць адгружаць усе віды прадукцыі АП «Крыніца».

**— Калектыў у Нясвіжы вялікі?**

— Пакуль што там працуюць 62 чалавекі. Як бачыце, для параўнальна невялікага горада мы ў пэўнай ступені вырашылі і праблему працаўладкавання насельніцтва. Скажу больш: у перспектыве мы расшырым вытворчасць, створым новыя рабочыя месцы. Так што і ў гэтым накірунку робім, як бачыце, добрую справу.

**НАШ АДРАС:**
**РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ**
**г. МІНСК,**
**ВУЛІЦА РАДЫЯЛЬНАЯ, 52,**
**АРЭНДНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА «крыніца».**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**46-10-31 (АДДЗЕЛ МАРКЕТЫНГУ),**
**46-45-72 (АДДЗЕЛ ПРОДАЖУ).**

***Знаёмцеся: прадукцыя АП «Крыніца»***

### ЦЭВІТА

**Сухі вітамінізаваны напітак. А што ж азначае само слова «Цэвіта»? Усё, аказваецца, вельмі проста: «С» — гэта, як вядома, вітамін. «Vita» — жыццё (з лацінскага). Такім чынам: «Цэвіта» — вітамін жыцця! Паводле рэкамендацый Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, «Цэвіта» дабратворна ўплывае на арганізмы нашых людзей, аслабленыя вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. «Цэвіта» выводзіць з арганізмаў солі цяжкіх металаў. Гама вітамінаў, натуральная сыравіна, карыснасць, даступны кошт, прыгожая ўпакоўка — усё гэта «ЦЭВІТА»!**

### ЖЭЛЕ

**Нядаўна прадпрыемства асвоіла выпуск жэле. Яно — трох найменняў: лімоннае, вішнёвае і малочнае. Гэта — выдатны прадукт для гаспадынь усіх узростаў і ступені падрыхтаванасці, тых, хто ўмее і любіць пячы пірагі, торты, рабіць мармелад. Неўзабаве ў школах Рэспублікі Беларусь адбудуцца выпускныя балы. Звярніце ўвагу на жэле «Крыніцы»! Яно дапаможа танна ўпрыгожыць самы багаты стол, парадаваць самы тонкі густ пры развітанні са школай!**

### КІСЕЛЬ «ЗІМОВАЯ ВІШНЯ»

**Яго не трэба варыць. Гэта — растваральны кісель. Праз 10 секунд (!) пасля засыпкі ў кіпень — у вас прыемнага паху напітак. У бальніцы, падарожжы, атэлі, лагеры адпачынку — «Зімовая вішня» з вамі і для вас!**



Гаспадыня ўстаноўкі грануліравання сухіх вітамінізаваных напіткаў Антаніна ЗАЙЦАВА.

Тут вараць лепшыя гатункі беларускага піва.





За якасцю прадукцыі сочыць інжынер вытворчай лабараторыі Вольга КУДЗЕЛКА.




Турбінным млыном для прыгатавання сухіх вітамінізаваных напіткаў кіруе Уладзімір БУДЗЬКО.

Выдатна працуе слесар-наладчык Міхаіл КРУГЛІКАЎ.

Старонку падрыхтаваў Анатоль МЯСНІКОЎ. Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

